Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 12 900.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-24-41

# НАВІНЫ



Серада, 18 лютага 1998 г. № 15 Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

### Вы падалі дэкларацыю?

**На працягу цэлага года беларусы могуць спаць спакойна — падаваць дэкларацыі аб даходах і даплачваць падатак сёлета не спатрэбіцца.**

Урад прапануе адмяніць дэклараванне сукупнага гадавога даходу за 1997 год і пераразлік падаходнага падатку. Адпаведны праект прэзідэнцкага дэкрэта ўжо падрыхтаваны. Чакаецца, што Лукашэнка падпіша яго, як толькі вернецца з Нагана. Дэкрэт прыпыніць дзеянне спрэчных пунктаў закона, на падставе якіх планавалася ўвядзенне дэкларавання. Вырашаць далейшы лёс дэкларавання і падаткаабкладання сукупнага гадавога даходу будзе прэзідэнцкі парламент.

На нарадзе ў Саўміне прадстаўнікі Дзяржаўнага падатковага камітэта выступілі за захаванне дэкларавання, аднак яны не былі падтрыманыя не толькі прадстаўнікамі прадпрымальніцкіх структураў, але і чыноўнікамі некаторых міністэрстваў.

Алесь САДОЎСКІ

### СНІД наступае

**За студзень 1998 года ў Беларусі выяўлена яшчэ 72 ВІЧ-інфіцыраваныя.**

Такім чынам, сёння ў нашай краіне афіцыйна зарэгістравана 1.787 хворых на СНІД. Большасць інфіцыраваных — маладыя людзі (ва ўзросце ад 18 да 30 гадоў), якія актыўна займаюцца сэксам. «Гэта дае падставы чакаць павялічэння ВІЧ-інфіцыраваных, — гаворыць спецыяліст Цэнтра прафілактыкі СНІДу Наталья Фірсава. — Хаця асноўнымі распаўсюджвальнікамі ВІЧ-інфекцыі па-ранейшаму застаюцца наркаманы».

Беларускім цэнтрам носьбітаў ВІЧ-інфекцыі застаецца Светлагорск, але вялікую насцярожанасць у спецыялістаў выклікае сітуацыя ў Мінску (цяпер у сталіцы зарэгістравана 180 вірусаносьбітаў). Па інфармацыі МУС, у сталічных ВНУ назіраецца рост наркаманіі сярод студэнтаў і, зразумела, павялічваецца пагроза заражэння ВІЧ-інфекцыяй.

Аляксандр ВАСІЛЕЎСКІ

*80 гадоў БНР*

### БНФ рыхтуе пашпарты

**Кампанію па атрыманні грамадзянства Беларускай Народнай Рэспублікі, абвешчанай у 1918 годзе, вырашыў распачаць Беларускі Народны Фронт.**

Запіс у «грамадзяне БНР» і, магчыма, нават атрыманне спецыяльных «пашпартоў» плануецца правесці падчас святкавання 80-ых угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі. Чарговы сойм БНФ, які прайшоў у мінулую суботу, ухваліў праграму святаў, у тым ліку адабрэнне атрымала і ідэя «грамадзянства БНР». Як патлумачыў выконваючы абавязкі старшыні БНФ Лявон Баршчэўскі, гэтая акцыя будзе мець сімвалічны характар. Яе мэта — засведчыць сваю павагу да падзеі, якая адбылася 80 гадоў таму, падкрэсліць духоўную сувязь паміж новымі пакаленнямі барацьбітоў за незалежнасць Беларусі і тымі патрыётамі, якія 25 сакавіка 1918 года ўпершыню абвесцілі аб стварэнні беларускай незалежнай дзяржавы. Пры гэтым Лявон Баршчэўскі зазначыў, што юрыдычна БНР дагэтуль існуе, а таму правамоцна застаецца і інстытут яе грамадзянства. У Амерыцы працягвае сваю дзейнасць Рада БНР.

Алесь ПАЎЛОВІЧ

### Сям'я з Мазыра папрасіла прытулку ў Чэхіі

**Падобна на тое, што Чэхія становіцца абетаванаю зямлёю для беларускіх палітэмігрантаў.**

Нядаўна палітычнага прытулку ў гэтай краіне папрасіла цэлая сям'я з Мазыра. Дацэнт Мазырскага педагагічнага інстытута Ніна Аксёнчык, яе муж Уладзімір Малашчанка і іх 6-гадовая дачка Рагнеда ў канцы снежня 1997 г. легальна выехалі з Беларусі ў Польшчу, адкуль праз нейкі час перабраліся ў Чэхію. Ніна Аксёнчык узначальвала ў Мазыры мясцовую арганізацыю БНФ і, па словах яе калегаў, за сваю апазіцыйную дзейнасць не раз адчувала пераслед з боку ўладаў. Цяпер гэтая сям'я знаходзіцца ў адным з лагераў для перамешчаных асобаў пад Прагай і чакае, пакуль чэшскі эміграцыйны дэпартамент выдасць ім дазвол на сталае жыхарства.

Мазырская сям'я апазіцыянераў — не першыя беларускія грамадзяне, якія папрасілі палітычнага прытулку ў Чэхіі. З падобнымі просьбамі да ўладаў гэтай краіны ўжо звярнуліся віцебскія актывісты Народнага Фронту Уладзіслаў Яндзюк і Сяргей Юрчанка, а таксама менчукі Аляксей Коваль і Сяргей Градоўкін.

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

### Нямецкія магілы на кантролі ў прэзідэнта

**Прэзідэнт Лукашэнка ўзяў пад асабісты кантроль ратыфікацыю беларуска-нямецкага пагаднення «Аб доглядзе за вайсковымі магіламі».**

Гэтае пагадненне паміж Беларуссю і Германіяй падпісанае яшчэ ў чэрвені 1996 года і ратыфікаванае нямецкім парламентам. Падчас сваёй паездкі ў ФРГ Лукашэнка паабяцаў прэзідэнту Вайдзэкеру, што ў нашай краіне магілы нямецкіх салдатаў будуць добраўпарадкаваныя. Пры беларускім міністэрстве абароны ўжо некалькі гадоў дзейнічае спецыялізаваны батальён, які займаецца раскопкамі на месцах былых баёў. Сапёры і археолагі збіраюць парэшткі савецкіх і нямецкіх салдатаў, палеглых у Другую сусветную вайну.

Беларуска-нямецкае пагадненне дазволіць пайсці далей у гэтай справе. Дакументам, у прыватнасці, прадугледжваецца выдзяленне ўчасткаў зямлі для закладкі магілак нямецкіх салдатаў Першай і Другой сусветных войнаў. Дагляд за імі будзе наладжаны ў адпаведнасці з міжнародным гуманітарным правам. Усе фінансавыя выдаткі бярэ на сябе нямецкі бок. Паводле пагаднення, беларускі ўрад выдзеліць пад абеліскі палеглым нямецкім салдатам участкі зямлі ў тых месцах, дзе ранейшыя пахаванні поўнасцю знішчаныя, а перанос парэшткаў немагчымы, напрыклад, па прычыне забудаванасці тэрыторыі. Беларускія ўлады дазваляць пры неабходнасці часова пахаваць знойдзеныя парэшткі і абазначыць магілы на мясцовасці, пакуль не будзе закладзены агульны магільнік.

Клапаціцца пра сваіх палеглых суайчыннікаў будзе гуманітарная арганізацыя — Народны саюз Германіі, які налічвае больш за мільён сяброў. Дзейнасць саюза фінансуецца за кошт ахвяраванняў грамадзян і ў асобных выпадках за сродкі федэральнага ўрада. У 1954 годзе канцлер ФРГ Адэнаўэр даручыў Народнаму саюзу весці пошук салдацкіх магілаў за мяжой і даглядаць іх.

Алесь ДАШЧЫНСКІ

### У Літве Шарамету далі 6 меней

**У літоўскім горадзе Варэна, што недалёка ад мяжы з Гродзенскай вобласцю, скончыўся суд над Чэславай Нядзвецкай. 60-гадовую жанчыну абвінавачвалі ў нелегальным пераходзе мяжы.**

Ч.Нядзвецкая нарадзілася на Беларусі, а цяпер жыве ў Варэнскім раёне, у вёсцы Будай, на самай мяжы Літвы і Беларусі. 7 снежня мінулага года яна вярталася звыклым шляхам з касцёлу дахаты. У гэтым храме яна малілася ўсё сваё жыццё, а касцёл гэты — на Беларусі. Пры перасячэнні мяжы яе і затрымалі памежнікі Варэнскай заставы. Нягледзячы на тое, што пры ёй нічога забароненага не знайшлі, узбудзілі крымінальную справу.

Суд пастанавіў, што «Ч.Нядзвецкая наўмысна і свядома перайшла літоўска-беларускую мяжу, памалілася ў касцёле, а пасля вярнулася ў Літоўскую Рэспубліку, двойчы парушыўшы дзяржаўную мяжу». Ч.Нядзвецкай прысудзілі 3 месяцы пазбаўлення волі з гадавой адтэрміноўкай.

Суддзя які выносіў прысуд, сказаў: «Мне шкада такіх людзей, але па закону яны павінны панесці пакаранне. Дзяржава павінна бараніць мяжу, аднак забываца на традыцыі, якія складаліся стагоддзямі, таксама не варта».

Андрэй ЛАПЦЁНАК

### Ці будзе вайна?



**На фотаздымку з нашага архіва вы бачыце амерыканскага салдата Данілу Ераховіча. Даніла па паходжанні беларус. Ягоныя дзед і бабка нарадзіліся ў Пінску, але ў трыццатых гадах разам са сваімі дзецьмі пераехалі ў Амерыку. З гэтага часу яны жывуць у горадзе Кліўлендзе, штат Агаё. У Клііўлендзе нарадзіўся і Даніла.**

**Калі ў 1991 годзе пачаўся канфлікт у Персідскім заліве, Даніла запісаўся добраахвотнікам у амерыканскую армію. У той час яму было 23 гады. Цяпер Даніле ўжо трыццаць і ў амерыканскай арміі ён больш не служыць, але ўпэўнены, што армія Злучаных Штатаў «разбярэцца з Хусейнам».**

*Інцыдэнт на ўрачыстым прыёме*

### Карпенка пабіўся з Шыманскім

У мінулы панядзелак, на ўрачыстым прыёме з нагоды 80-годдзя абвяшчэння незалежнасці Літоўскай Рэспублікі, які амбасада суседняй краіны ладзіла ў рэстаране гатэля «Юбілейны», адбылася бойка паміж Генадзем Карпенкам і Міхаілам Шыманскім, галоўным рэдактарам «Народнай газеты». Цяжка ўявіць сабе вынікі гэтага інцыдэнту, калі б фізічна здаровых і рослых мужыкоў не развёў намеснік міністра адукацыі Алег Слука. Пакрыўджаны Шыманскі ў адчаі клікаў міліцыю, якая аднак не з'явілася.

Такім арыгінальным чынам намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Г.Карпенка нагадаў галоўнаму рэдактару «Народнай газеты» пра свабоду прэсы. Гэтая афіцыйная газета апублікавала паклёпніцкі артыкул «Пятая вымярэнне Генадзя Карпенкі». Віцэ-спікер звярнуўся ў суд, каб абараніць сваю годнасць. Падчас працэсу аўтар артыкула Уладзімір Зуеў прызнаўся, што атрымаў матэрыялы на Карпенку ад Уладзіміра Замяталіна. Як высветлілася пасля публікацыі, увесь «кампрамат» на Карпенку быў выдуманы, ніводзін факт не пацвердзіўся. Журналіст Зуеў сказаў, што за гэты артыкул высокапастаўленыя чыноўнікі паабяцалі яму пасаду галоўнага рэдактара «Знамя юности». У якасці сведак у суд выкліканыя віцэ-прэм'ер Уладзімір Замяталін і рэдактар Міхаіл Шыманскі.

Тым часам аўтар артыкула Зуеў даслаў у рэдакцыю «Народнай газеты» абвяржэнне, просячы прабачэння ў Карпенкі. У заяве Зуеў адзначае, што яго «як журналіста дзяржаўнага СМІ проста выкарысталі ў сваіх інтарэсах асобныя не вельмі сумленныя дзяржаўныя чыноўнікі». Прайшоў час, але «НГ» не надрукавала гэты ліст. Генадзь Карпенка пісьмова звярнуўся да М.Шыманскага з просьбай апублікаваць тэкст заявы Зуева «пасля таго бруду і паклёпу, які фабрыкаваўся і друкаваўся ў «Народнай газеце». Аднак галоўны рэдактар «НГ» да гэтага часу не пазнаёміў сваіх чытачоў з пакаяннай заявай Зуева. Віцэ-спікер Генадзь Карпенка выпадкова сустрэў Міхаіла Шыманскага на прыёме ў літоўскай амбасадзе і вырашыў пры вялікай колькасці прысутных запытаць, што ж стрымлівае смелага рэдактара.

Алесь ДАШЧЫНСКІ

***P.S. Дарэчы, журналіст Зуеў прызнаўся яшчэ ў адной фабрыкацыі. У інтэрв'ю «Свободным новостям» ён паведаміў наступнае (цытуем):***

*«Помните, как в канун референдума с телеэкранов озвучивались тезисы якобы бэнээфовских листовок, которые призывали народ запасаться бутылками, камнями и идти на штурм резиденции президента. Так как я более-менее знал белорусский язык, и в частности, — старую тарашкевицу, то мне и поручили выдать экспромт. Что я и сделал по поручению вполне определенных лиц, текст листовок даже был набран на компьютерах в администрации президента и разослан в государственные СМИ. Автор последнего бэнээфовского бизнесплана мне неизвестен, но, уверен, технология его составления та же».*

# Амерыканскі пасол сустрэўся з маладымі палітыкамі

**«Круглы стол», які ў мінулы чацвер ладзіла Беларуская асацыяцыя маладых палітыкаў, называўся «Беларусь у знешняй палітыцы Расіі і ЗША». Натуральна, на яго запрашаліся прадстаўнікі амбасадаў згаданых краінаў. З амерыканскага боку ўдзел узяў асабіста пасол Дэніэл Спекхард. Ад расійскай амбасады, насуперак іхнім абяцанням, не пажадаў прыйсці ніхто.**

У сваім выступленні Д.Спекхард пацвердзіў нязменнасць амерыканскай пазіцыі ў адносінах да Беларусі: Злучаныя Штаты, як і Еўропа, прызнаюць Канстытуцыю 1994 года і Вярхоўны Савет як парламент краіны. Прэзідэнцкія ж выбары, падкрэсліў пасол ЗША, павінны адбыцца пасля 5-гадовага тэрміну, на які абіралі Лукашэнку: у 1999 годзе. Калі выбары не пройдуць пасля 1999 г., ЗША не будуць прызнаваць Лукашэнку за кіраўніка беларускай дзяржавы, і гэта *«прывядзе да новага вітка вельмі сур'ёзнай напружанасці паміж Захадам і Беларуссю»*.

*«ЗША ніякім чынам не імкнуцца аднавіць элементы «халоднай вайны»*, — адзначыў сп.Спекхард. На яго думку, складанасці ў адносінах паміж ягонай краінай і Беларуссю выкліканыя тым, што беларускае кіраўніцтва не выконвае агульнапрынятыя правілы, парушае прынцыпы дэмакратыі, правоў і свабодаў чалавека. Д.Спекхард заявіў: *«Мы ўскладаем вялікія спадзяванні на тое, што ў Беларусі пачынае паспяховую работу група АБСЕ. Мы спадзяемся, што беларускі ўрад будзе прыслухоўвацца да яе рэкамендацыяў і тым самым пераадольваць разрыў паміж Беларуссю і Захадам»*.

Закрануў сп.Спекхард і больш прыватныя пытанні. Так, ён зазначыў, што ЗША гатовыя падтрымліваць няўрадавыя арганізацыі Беларусі. Нарэшце заявіў пра тое, што Беларусь нібыта падрыхтаваная да вырабленя ядзернай зброі («сенсацыйнае» паведамленне пра гэта прагучала ў сумнавядомай праграме БТ «Рэзананс» і пасля абмяркоўвалася на расійскіх тэлеканалах), Спекхард сказаў: *«Гэта поўная лухта»*. Пасол ЗША паведаміў, што звярнуўся па гэтым пытанні ў беларускае міністэрства замежных справаў, дзе яму адказалі, што дадзеныя звесткі з'яўляюцца асабістым меркаваннем журналіста і не варта ставіцца да іх сур'ёзна.

Паколькі расійскі бок не палічыў патрэбным браць удзел у «круглым стале», саваё тлумачэнне палітыкі Расіі ў дачыненні нашай краіны выклаў былы намеснік міністра замежных справаў Беларусі Андрэй Саннікаў. Як ён лічыць, у Расіі няма цэласнай палітыкі ў адносінах да Беларусі, *«ёсць толькі асобныя элементы»*. Бадай, адзінай лініяй, якая праглядаўна праводзіцца Масквою, ёсць падтрымка Лукашэнкі. Выпадак з арыштам карэспандэнта ОРТ П.Шарамета толькі падкрэслівае гэта, паколькі афіцыйная Расія расцаніла яго як лакальны інцыдэнт. А.Саннікаў нагадаў, што Расія была адзінай дзяржавай, *«якая павіншавала Лукашэнку з перамогай адразу пасля «рэферэндуму», нават не дачакаўшыся абвяшчэння вынікаў. Расія не толькі сама прызнала новую «канстытуцыю» і «палату», але і робіць масіраваны ціск на міжнародныя структуры»*. І гэта пры тым, што *«Лукашэнка, ужо не хаваючыся і не саромеючыся, ірвецца ў Крэмль і дэманструе, што можа праводзіць курс, альтэрнатыўны таму, які праводзіць Ельцын і цяперашняе расійскае кіраўніцтва»*. Чаму ж, насуперак гэтай акалічнасці, Масква не пазбаўляе нашага дыктатара падтрымкі? З пункту гледжання Саннікава, адной з прычынаў з'яўляецца тое, што Беларусь — адзіная ў свеце краіна, якая без разважаў падтрымлівае кожны расійскі антызаходні крок і да таго ж забяспечвае ваенную абарону Расіі на заходніх межах. *«Галоўнае ж — гэта тое, што Расія ніяк не разглядае Беларусь як самастойную ў поўным сэнсе дзяржаву. Беларусь бачыцца з Масквы як частка Расіі, як свая, уласная тэрыторыя»*.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

# Письмо, ускорившее арест Климова

**За день до своего ареста депутат Андрей Климов, член специальной комиссии Верховного Совета, начал рассылку письма, которое предполагал направить в каждый район Беларуси следующим адресатам: прокурору, начальнику отдела милиции, начальнику налоговой инспекции, главе местной «вертикали».**

Текст этого письма приводим полностью.


*А.Климов*

*«Руководителю для ознакомления и проведения обсуждения письма в трудовом коллективе*

*Довожу до Вашего сведения, что Верховным Советом Республики Беларусь создана специальная комиссия по правовой оценке нарушений Президентом Республики Беларусь А.Г.Лукашенко Конституции и законов Республики Беларусь. На основании материалов, находящихся в распоряжении специальной комиссии, подготовлено заключение о наличии в действиях Президента Республики Беларусь А.Г.Лукашенко признаков преступления, предусмотренного частью второй статьи 61-1 Уголовного кодекса Республики Беларусь.*

*В первой половине 1998 года Президент Республики Беларусь А.Г.Лукашенко будет отстранен от должности, а созданная им структура государственного управления признана незаконной.*

*Учитывая, что осуществление Президентом Республики Беларусь А.Г.Лукашенко своих полномочий по Конституции, принятой на референдуме 24 ноября 1996 года, является прямым захватом государственной власти, все должностные лица обязаны воздержаться от исполнения Декретов, Указов Президента и законов Национального собрания, изданных после референдума 24 ноября 1996 года.*

***Депутат Верховного Совета РБ, член специальной комиссии Андрей Климов.***

*Минск, 10 февраля 1998 года».*

Решение о рассылке данного письма Андрей Климов согласовал с председателем специальной комиссии Верховного Совета Виктором Гончаром. По словам Гончара, если бы текст составлялся от имени всей комиссии, в него были бы внесены некоторые коррективы — но, поскольку письмо подписывал только сам А.Климов, то Гончар дал «добро».

Едва ли можно разделить оптимизм А.Климова насчет отстранения А.Лукашенко от власти в нынешнем году — «блажен, кто верует, тепло ему на свете». Как бы там ни было, Климов начал рассылку письма 10 февраля. Уже 11 февраля он был арестован.

Конечно, причины задержания Андрея Климова не сводятся к этому письму — они наверняка шире. Но отправка письма вполне могла форсировать решение арестовать опального депутата.

Специальная комиссия ВС сделала заявление, согласно которому *«арест А.Климова продиктован чисто политическими причинами»*. В заявлении подчеркивается: *«Специальная комиссия считает, что лучшей формой поддержки нашего коллеги будут конкретные шаги депутатского корпуса по практической реализации процедуры импичмента»*.

**Вадим КАЗНАЧЕЕВ**

*Наркаманія і алкагалізм*

# Трывожная тэндэнцыя

Дзяржаўная праграма па барацьбе з наркаманіяй у нашай краіне існуе больш за год. Міліцэйскія чыноўнікі сцвярджаюць, што сітуацыя кантралюецца: сістэма створаная і працуе. Але выступоўцы «круглага стала», што прайшоў на мінулым тыдні ў Мінску, канстатавалі: сацыялагічныя апытанні і спецыяльныя даследаванні часта высвятляюць нечаканыя і вельмі трывожныя факты.

## Наркаманія

За апошнія два гады, каб спыніць незаконны абарот наркотыкаў, зроблена вельмі шмат, сцвярджае старшыня аддзеведнага ўпраўлення МУС А.Буры. Ужо два гады працуе камісія па барацьбе са злачыннасцю і наркаманіяй, у якую ўваходзяць прадстаўнікі з 25 міністэрстваў і ведамстваў. У канцы 1996 года была прынята дзяржаўная праграма комплексных мераў, нацэленая на барацьбу з наркотыкамі. Створаны міжведамасны савет. *«Праведзена шмат іншых дзеянняў, якія спрыяюць барацьбе з наркотыкамі*, — кажа Буры. — *І можна сцвярджаць, што сістэма ўжо створаная і сітуацыя пад кантролем. Цяпер патрэбна толькі лепш забяспечыць непасрэдных выканаўцаў тэхнікай і павялічыць колькасць супрацоўнікаў»*. Такім чынам, міліцэйскае ведамства сцвярджае, што можна ўсё — толькі дайце грошай.

Галоўны псіхіятр міністэрства аховы здароўя Алег Ліскоўскі паведаміў, што на сённяшні дзень у краіне зарэгістравана 3 тысячы 454 наркаманы. (Дзіўна: яшчэ паўгода назад называлася большая лічба — 3.539.) З 1992 года колькасць зарэгістраваных наркаманаў павялічылася ў 4 разы. Аднак эксперты падкрэсліваюць, што сучасныя методыкі падліку даюць падставы гаварыць пра лічбу большую ў 10—20 разоў.

*«Мы шукаем шляхі выйсця ў нашым бедным эканамічным становішчы»*, — кажа А.Ліскоўскі. Але нават для тых, хто добраахвотна, сам вырашыў "завязаць", не хапае цэнтраў рэабілітацыі. Міністэрства рыхтуе дактароў-кансультантаў па наркаманіі. Пры дапамозе галандцаў правялі даследаванне ў Светлагорску — эпіцэнтры наркаманіі: праанкетавалі ўсіх вучняў старэйшых класаў, навучэнцаў вучылішчаў і тэхнікумаў, іх настаўнікаў і медыкаў. Дакладныя вынікі пакуль не падведзеныя, але, па сцвярджэнні А.Ліскоўскага, — яны сумныя. Апытанне паказала, што калі няма «сталага» пастаўшчыка, то дозу наркотыку ў Светлагорску можна знайсці і набыць за 4 гадзіны. Высветлілася і шмат іншых непрыемных для міліцыі фактаў і дэталяў.

А.Буры шчыра прызнаўся, што гэтага ён проста «не чакаў». Але звесткам «варта давяраць», і МУС будзе прадпрымаць «неабходныя дзеянні».




## П'янства і алкагалізм

Дзяржаўнай «антыалкагольнай» праграмы ў Беларусі няма. Затое ёсць «п'янства, заснаванае на традыцыях», і яно даўно перарасло межы проста застольнага, рытуальнага спажывання спіртнога. Маштабы алкагалізму ў краіне проста палохаюць, сказаў А.Ліскоўскі. Толькі на ўліку стаіць 165 тыс. 860 алкаголікаў. Колькі ж невыяўленых — невядома нават прыблізна. Адназначна адно: назіраецца пастаянны рост тых, хто злоўжывае алкаголем. У 1996 годзе армія зарэгістраваных алкаголікаў вырасла на 7,3%. Як можа змяніцца сітуацыя, спецыялісты не ўзяліся спрагназаваць нават на бліжэйшы час, але адзначылі, што для пашырэння п'янства ёсць усе ўмовы.

Адзін з крытэрыяў вызначэння здароўя насельніцтва — памеры ўжывання алкаголю на душу насельніцтва. У Беларусі ў 1996 годзе гэтая лічба складала 4,8 літра чыстага спірытусу на кожнага жыхара, уключаючы малых дзяцей і старых бабуль. Але Ліскоўскі лічыць, што нават гэтая лічба — нерэальна малая, бо не ўлічвае самаробных і кантрабандных алкагольных напояў, а іх выпіваецца нават больш, чым «афіцыйнага» алкаголю.

*«Змагацца з алкагалізмам трэба дзяржаўнай праграмай, як і з наркотыкамі*, — упэўнены Ліскоўскі. — *Неабходна стварыць абмежаванні ўжывання алкаголю: цэнавыя, абмежаваць даступнасць, час продажу і г.д.»*

Урач-нарколаг цэнтра «Міласэрнасць і здароўе» Вольга Вайніла, грунтуючыся на неафіцыйных крыніцах, сцвярджала, што ўжыванне алкаголю на душу насельніцтва ў Беларусі набліжаецца да 25 літраў у год. *«Гэта пры тым, што 8 літраў — гранічная доза, пасля якой краіна ўступае ў зону генетычнай рызыкі»*, — сказала яна. Па інфармацыі В.Вайнілы, кожны 4-ты мужчына ў Беларусі мае прыкметы хранічнага алкагалізму.

Прысутныя на «круглым стале» афіцыйныя асобы рашуча абверглі гэтыя звесткі. Маўляў, лічбы завышаныя. Але чыноўнікі пагадзіліся, што нядрэнна было б правесці шырокае нацыянальнае даследаванне, каб мець сапраўдную карціну.

Дарэчы, А.Ліскоўскі сказаў карэспандэнту НАВІНАЎ: «Хоць дакладна вядома, што вытворчасць алкагольных напояў павялічваецца, афіцыйныя лічбы ўжывання спіртнога незразумела чаму памяншыліся. Мяне гэта здзівіла і збянтэжыла». Ліскоўскі таксама згодны, што ў Беларусі лагічна прымяняць методыку, прынятую ў некаторых былых савецкіх рэспубліках, — 7 літраў «афіцыйнага» алкаголю на душу насельніцтва адпавядае 20 літрам у рэальнасці.

*«Але якія б ні былі зараз лічбы па п'янстве, міністэрства аховы здароўя толькі дае парады. Змяніць сітуацыю магчыма толькі на высокім дзяржаўным узроўні»*, — кажа А.Ліскоўскі. Дзяржава павінна вырашыць для сябе, што важней: вялікія бюджэтныя паступленні «п'яных грошаў» ці здароўе нацыі. А вынікі п'янства вядомыя: скарачэнне жыцця, павелічэнне смяротнасці, хваробы, злачыннасць, аварыі і іншыя трагедыі.

**Аляксандр ВАСІЛЕЎСКІ**

# Зяцю Старавойтава далі «хімію»

**У райцэнтры Кіраўск Магілёўскай вобласці вынесены прысуд Валерыю Кавальчуку — зяцю Васіля Старавойтава, былога старшыні калгаса «Рассвет».**

Суддзя Надзея Чмара прызнала В.Кавальчука вінаватым ва ўчыненні злачынства, прадугледжанага арт. 213 ч. І Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь — «незаконнае нашэнне, захоўванне, набыццё, выраб ці збыт зброі або выбуховых рэчываў». Пры вобыску на кватэры Кавальчука былі знойдзеныя чатыры пачкі рэвальверных патронаў. Падсудны асуджаны да 1 года пазбаўлення волі ўмоўна ў месцах, якія вызначаюць адпаведныя органы ўнутраных справаў.

Мера стрымання да ўступлення прысуду ў законную сілу пакінута ранейшай — утрыманне пад вартай у следчым ізалятары Бабруйска, дзе В.Кавальчук знаходзіцца з моманту арышту, з 12 кастрычніка 1997 года.

Пад вартай утрымліваецца яшчэ адзін зяць В.Старавойтава — былы начальнік мэблевага цэха «Рассвета» Сяргей Жалабаеў. Яго падазраюць ва ўчыненні злачынстваў па чатырох артыкулах Крымінальнага кодэкса: «крадзеж у асабліва буйных памерах», «парушэнне парадку прадпрымальніцкай дзейнасці», «падробка, выраб або збыт падробных дакументаў, штампаў, пячатак, бланкаў» і «незаконнае нашэнне, захоўванне... зброі або выбуховых рэчываў». Яго жонка, дачка Васіля Старавойтава Таццяна, якая працавала бухгалтарам мэблевага цэха, падазраецца ў злачынствах, прадугледжаных гэтымі ж артыкуламі, апрача апошняга — звязанага са зброяй. З яе ўзялі падпіску аб нявыездзе, хаця абвінавачанне пакуль не прад'яўленае.

*БелаПАН*

*Літва*

## Пенсія Бразаўскасу

**Прэзідэнт Літвы А.Бразаўскас, тэрмін прэзідэнцтва якога канчаецца 25 лютага, пажыццёва будзе атрымліваць пенсію ў памеры 50% свайго заробку.**

Сёння заробак прэзідэнта складае 12 сярэднемесячных літоўскіх заробкаў — каля 11.808 літаў, або 2.950 долараў ЗША. Пасля звальнення з дзяржаўнай службы прэзідэнт, па словах міністра сацыяльнай абароны і працы Ірэны Дзягутэне, будзе атрымоўваць пенсію 5.904 літы = 1.475 долараў.

## Беларус, які ўцёк з Літвы

**6 лютага ў Вільню з Франфурта-на-Майне быў дастаўлены беларус Віктар Барэйша — чалавек, якога амаль год шукаў Інтэрпол.**

24 лістапада 1996 г. у Вільні Барэйша абрабаваў Ёланту Станкевіч. Барэйша тады ўцёк з Літвы, аднак у жніўні мінулага года яго з дапамогай Інтэрпола затрымала нямецкая паліцыя. Генпракуратура Літвы звярнулася да немцаў з просьбай выдаць Барэйшу. Барэйша, ведаючы, што за ягонае злачынства яму пагражае пазбаўленне волі да 12 гадоў, папрасіў у немцаў палітычнага прытулку. Аднак пракуратура Літвы змагла давесці нямецкім калегам, што Барэйша з'яўляецца злачынцам. Гэта першы выпадак выдачы грамадзяніна Беларусі з-за мяжы ў Літву.

## Будзь пільны на дарозе!

**Літоўская паліцыя набыла за 100 тысячаў літаў (25 тысячаў долараў) вымяральныя прыборы новага тыпу для змагання з парушальнікамі дарожнага руху на трасах, што вядуць з Літвы ў Беларусь.**

Як паведаміў спецыяльна для НАВІНАЎ і беларускіх кіроўцаў, якія едуць у Літву на аўтамабілі, камісар Віленскай дарожнай паліцыі, гэтыя прыборы здольныя не толькі дакладна вызначыць хуткасць аўтамабіля, але і, запісаўшы дадзеныя на відэастужку, адразу выдаць здымак. Такім чынам парушальнікам правілаў ужо не будзе чаго спрачацца з паліцэйскім, узброеным такім прыборам. Не дапамогуць і антырадары: іх звычайна ставяць у салонах легкавікоў, а прамень новага прыбора накіроўваецца на пярэдні буфер. Акрамя таго, прамень даходзіць да аўто і вяртаецца назад усяго за 0,36 секунды. Такім чынам, нават калі антырадар спрацуе, кіроўца ўсё адно не паспее скінуць хуткасць.

**Андрэй ЛАПЦЁНАК,**
*Беларускі Інфармацыйны Цэнтр, Вільня*

# Очень спортивный президент

## *Кирсан Илюмжинов: «Я без Калмыкии проживу, а она без меня нет»*

Президент Калмыкии Кирсан Илюмжинов, как и его белорусский коллега, очень любит спорт. Однако, в отличие от Александра Григорьевича, Илюмжинову удалось достигнуть больших успехов на международном спортивном поприще: вот уже несколько лет он возглавляет Международную шахматную федерацию*(FIDE)*. Естественно, что спорту в стране с таким спортивным президентом уделяется особое внимание.

Как известно, Кирсан Илюмжинов — очень богатый человек, один из самых богатых людей в России. По данным журнала «Огонек», Илюмжинов владеет 50 различными коммерческими структурами с совокупным годовым оборотом 500 миллионов долларов. Как же он все успевает: руководить Калмыкией, заседать в верхней палате российского парламента, заниматься бизнесом, да еще и по международным шахматным делам мотаться? Это особый илюмжиновский секрет. Вряд ли в ближайшее время он станет кому-нибудь известен. Однако кое-что из того, как Кирсан Илюмжинов руководит спортом в Калмыкии, показалось нам интересным.

Судя по всему, Илюмжинов считает, что его декреты и указы — лучший способ установления спортивных рекордов и достижений. В прошлом году калмыцкий президент издал декрет, предписывающий футболистам из местной команды «Уралан» завоевать звание чемпионов в первой российской лиге. И что вы думаете? Помог декрет! Правда, его подкрепляли существенные денежные вливания: из республиканского бюджета на достижение заветной цели было выделено 20 миллиардов рублей (более 3 миллионов долларов). Задача, поставленная президентом, была выполнена досрочно. Не понадобилась даже помощь Диего Марадоны, которого хотел приобрести для «Уралана» Кирсан Илюмжинов. В этом году Илюмжинов планирует вдвое увеличить финансирование калмыцкого футбола. Однако и задача перед футболистами поставлена нелегкая: войти в пятерку сильнейших футбольных команд России. Как сообщает «Общая газета», Кирсан Илюмжинов уже подготовил соответствующий указ.

Однако больше всего Илюмжинов все-таки любит не футбол, а шахматы. Этой осенью в столице Калмыкии Элисте со-



*В конце 70-х пески были еще далеко, сегодня они наступают стремительно.*



*Кирсан Илюмжинов. Богатый отец бедного народа.*

строится Всемирная шахматная олимпиада. Однако уже сейчас республика готовится к приему зарубежных и российских гостей. На окраине Элисты возводится отдельный шахматный город — Сити Чесс (*City Chess* — Город Шахмат). Землю, на которой сейчас строится город, Илюмжинов планирует отдать на 99 лет шахматистам в аренду. В городе будет автономное управление. Руководить *City Chess* будет Король, исполняющий функции президента, и Ферзь — премьер-министр города. Уже сегодня треть всего жилого фонда города раскупили различные коммерческие компании. Десятую часть квартир в *City Chess* передадут пенсионерам. А один из строящихся в городе коттеджей подарят одиннадцатому чемпиону мира по шахматам Роберту Фишеру. Для того, чтобы окончательно убедить несговорчивого янки поменять место жительства, к коттеджу прилагается местная прописка и даже калмыцкое гражданство.

*«Умение играть в шахматы отражается на карьере чиновников. Тем из них, кто играть не умеет, приходится втихаря учиться у собственных детей»*, — говорит Кирсан Илюмжинов. Молодое поколение охотно помогает родителям осваивать одну из древнейших игр: уроки шахмат входят в обязательную школьную программу Калмыкии. *«Если раньше в школьных туалетах дети курили, то теперь решают шахматные задачи»*, — с гордостью отмечает Кирсан Илюмжинов.

Так что же, Калмыкия — земной рай для всех, а для спортсменов особенно? Да нет. Калмыкия — один из беднейших регионов России. Основное занятие людей здесь — сельское хозяйство. В прошлом году средняя зарплата по республике составляла 287 тысяч рублей (менее 50 долларов в месяц), что в три раза ниже, чем в среднем по России. И те деньги, которые Кирсан Илюмжинов направляет на развитие спорта, куда больше помогли бы тысячам обездоленных и голодающих калмыков. Но зачем? Ведь, по словам Илюмжинова, Калмыкия процветает.

*По материалам печати подготовил*
**Ростислав ПЕРМЯКОВ**

# Рядовые ответят за всех?

**В понедельник в Рижском окружном суде начался процесс по делу ОМОНа. Но, как и ожидалось, слушание продолжалось всего несколько часов. Судья предложил перенести заседание на 3-4 месяца, сославшись на неявку пяти из пятнадцати подсудимых.**

Это милицейское формирование создавалось для борьбы с преступными группировками, но печальную известность бойцы Рижского ОМОНа (да и не только Рижского) получили как участники политического противостояния.

Расследованием преступных деяний Рижского ОМОНа занимались, сменяя друг друга, пять следственных бригад из Латвии и России. Из 132 участников событий следствие отобрало для привлечения к суду 63 человека. Из этих 63 удалось обнаружить на территории Латвии 15 рядовых бойцов. Остальные 48 скрываются, в основном в России. Всем им инкриминируется *«действия, направленные на свержение государственного строя»*, — таким образом следствие характеризует действия омоновцев в 1990 году, когда произошло несколько вооруженных инцидентов с их участием.

Законы Латвии предусматривают за это наказание в виде лишения свободы от 10 до 15 лет с конфискацией имущества.

Зал суда давно не видел такого наплыва репортеров. Начало процесса снимали семь телекамер, в том числе три крупнейшие телекомпании из Москвы, освещали десятки местных журналистов. Все чего-то ждали и... не дождались.

Судебное заседание началось с опроса подсудимых: где родился, на ком женился, принес ли с собой паспорт. Были оглашены имена неявившихся на процесс. Из пятнадцати подсудимых на скамью сели десять. Один был в больнице. Четверо убыли в неизвестном направлении, не предупредив суд о своих перемещениях.

Судья **Валдемар Зариньш** проинформировал собравшихся о том, что свидетели по делу живут в разных местах Латвии и поэтому их на первое заседание не вызывали, так как не было уверенности, что соберут всех подсудимых. Потом он осведомился у подсудимых, возможно ли продолжать суд без присутствия всех обвиняемых, на что те дружно ответили «нет». Подсудимых поддержали их адвокаты, а потом и прокурор г-н Маргевич: *«Заседание суда должно проходить в присутствии всех подсудимых»*.

Суд удалился на совещание и буквально через полчаса ознакомил собравшихся с собственным решением: отложить суд на три-четыре месяца, обязать правоохранительные органы найти или выяснить точное местонахождение четырех скрывшихся подсудимых, применить в случае обнаружения к скрывающимся меру пресечения — арест и содержание под стражей.

**Рита Аксенока**, бывший начальник управления прокуратуры ЛР, ныне советник президента ЛР: *«Не стоило рядовых бойцов отправлять в суд, раз не привлекаются самые главные организаторы деятельности ОМОНа. А главное — все нити уходят в Москву. Думаю, что процесс не даст никакого результата. Вообще, он достаточно несправедлив, опять накажут стрелочников»*.

**Лев Воронов**, бывший следователь по особо важным делам, ныне начальник юридического бюро *Pareks*: *«59-я статья, по которой будут обвиняться омоновцы, достаточно спорная с юридической точки зрения. Тут как бы закон обретает обратную силу. С другой стороны, если в действиях подсудимых есть состав преступления, если они выполняли заведомо преступный приказ, то должны нести ответственность. Опять же — мера наказания, конечно, должна зависеть от того, исполнял подсудимый приказы или отдавал их. Говорить о том, что подсудимые — невинные жертвы, неверно»*.

**Эрик Калнмейерс**, бывший начальник управления прокуратуры ЛР, ныне присяжный адвокат: *«Те, кого судят, — исполнители. Они выполняли приказ и не понимали истинного смысла своих действий. Люди считали, что выполняют свой долг. Я не хочу их оправдывать за фактические действия, но судить за политику нельзя. Есть же те, кто отдавал приказы, их и надо судить. Не могут простые бойцы отвечать за весь ОМОН»*.

Есть основания полагать, что процесс над омоновцами будет длительным. Вот только приблизит ли он нас к истине?

*По материалам*
**«Бизнес & Балтия»**

*Алімпіяда*

## Папоў прайграў толькі снегападу

Спрынтэрскую гонку біятланістаў на 10 км мы чакалі з нецярпеннем і надзеяй. І нашыя чаканні спачатку апраўдваліся. Стартаваўшы 4-ым, сцяганосец нашай зборнай Аляксандр Папоў вельмі хутка прайшоў дыстанцыю і на двух агнявых рубяжах, нягледзячы на моцны снегапад, паразіў усе дзесяць мішэняў. Меньш удала дзейнічалі Алег Рыжанкоў, зрабіўшы два промахі ў стральбе лежачы, і Вадзім Сашурын, прамахнуўшыся ў тры мішэні страляючы стоячы. Час Папова быў лепшым, калі фінішавалі 16 біятланістаў, 50 знаходзіліся на дыстанцыі, а яшчэ 8 не стартавалі. У гэты момант суддзейская калегія прыняла рашэнне прыпыніць гонку з-за вялікага снегападу і перанесці яе на сёння. Тым самым Папоў быў пазбаўлены вельмі верагоднага прызавога месца, таму што яго канкурэнты прайгравалі яму па ходу гонкі. Акрамя таго, тыя, хто прайшоў трасу поўнасцю альбо амаль поўнасцю, зрасходавалі столькі фізічных і маральных сілаў, што за адны суткі іх не аднавіць. Вось так не пашанцавала!

Сёння стануць вядомыя пераможцы чвэрцьфінальных хакейных паядынкаў (матч Беларусь — Расія пачнецца ў 7:45), у акрабатычных скачках на лыжах, дзе ў фінале выступяць беларусы Дзмітрый Дашчынскі і Аляксей Грышын.

**Сямён ПЛОЦ**

## За рулём піць, але не напівацца

**ЗША займаюць першае месца ў свеце па дапушчальнай колькасці алкаголю ў крыві кіроўцы.**

У большасці штатаў, піша *USA Today*, кіроўца можа мець 0,1% алкаголю (прыкладна тры-чатыры бутэлькі піва). Французскія аўтамабілісты маюць права выпіць удвая менш. А вось шведам дазволена выпіць за рулём не больш чым адну бутэльку піва ці бакал сухога віна.

## Навуку не падманеш

**Рэнтгенаўскі апарат дазволіў вызначыць сапраўдны ўзрост злачынцы.**

Суду горада Бостана (ЗША) давялося звярнуцца па дапамогу да лекараў-антраполагаў, каб вызначыць сапраўдны ўзрост гандляра какаінам Карласа Медраны. Ён быў арыштаваны паліцыяй яшчэ ў 1996 годзе, але яго дагэтуль не атрымлівалася асудзіць. Крымінальнік сцвярджаў, што на момант затрымання яму яшчэ не споўнілася шаснаццаці гадоў і, такім чынам, ён не можа быць асуджаны. Як піша газета *San Francisco Chronicle*, суд не знайшоў папераў, якія б сведчылі аб сапраўдным узросце Карласа Медраны, але папрасіў лекараў правесці рэнтгеналагічнае даследаванне костак падсуднага, каб вызначыць ягоны сапраўдны ўзрост. Даследаванне паказала, што Медране менш за дваццаць пяць гадоў, і цяпер прыгавор яму будзе куды больш строгі.

## Індыя абгоніць Кітай

**Да 2050 года Індыя стане самай густанаселенай краінай на зямным шары, прагназуюць амерыканскія эксперты.**

Газета *USA Today* прыводзіць вынікі даследаванняў, паводле якіх праз пяцьдзесят гадоў насельніцтва Індыі павінна павялічыцца на трэць — гэта будзе адзін мільярд пяцьсот трыццаць мільёнаў чалавек. Кітай тым часам апынецца на другім месцы, саступіўшы Індыі на 10 мільёнаў. Трэцяе месца захаваецца за Злучанымі Штатамі Амерыкі. Сёння Амерыка налічвае 270 мільёнаў чалавек, а ў сярэдзіне XXI стагоддзя прыбавіцца яшчэ 120 мільёнаў амерыканцаў — у асноўным за кошт імігрантаў і чарнаскурага насельніцтва.

## Не насіце кніжкі ў нужнік

**У бліжэйшы час французы могуць стаць самымі вялікімі аматарамі чытання ў свеце.**

Справа ў тым, што вытворцы туалетнай паперы ў краіне вырашылі змагацца за разнастайнасць сваёй прадукцыі літаратурнымі сродкамі. Цяпер візіт у прыбіральню стане не толькі прыемным, але і карысным. Разматаўшы рулон, спажывец прачытае шэдэўры сусветнай літаратуры, вясёлыя гісторыі і свежыя анекдоты. Дырэктар аднаго з універмагаў на поўначы краіны з радасцю паведамляе, што новая папера ідзе нарасхват. Асабліва папулярныя выпускі з гісторыямі пра Маленькага Гобліна.

## Скралі кавалак памяці

**У Берліне невядомыя зламыснікі скралі з музея знак, які калісьці падзяляў Берлін на заходнюю і ўсходнюю часткі.**

Гэта была драўляная шыльдачка з надпісам на чатырох мовах: «Вы пакідаеце амерыканскі сектар». Яна вісела на прапускным пункце да 1961 года — часу будаўніцтва бетоннага Берлінскага мура. У паведамленні агенцтва *Associated Press* адзначаецца, што гэты экспанат быў адным з найбольш вядомых сімвалаў эпохі «халоднай вайны». Музейныя супрацоўнікі сцвярджаюць, што шыльдачка мае пэўную гістарычную каштоўнасць, хоць і не з'яўляецца арыгіналам.

## Камп'ютэр загаворыць па-кітайску

**Карпарацыя *IBM* у хуткім часе створыць камп'ютэр, здольны ўспрымаць на слых кітайскую мову, а дакладней, яе мандарынскі дыялект.**

Кітайская мова — апошняя з шырока распаўсюджаных у свеце, якую да гэтага часу яшчэ не могуць разумець камп'ютэры. Асноўная прычына гэтага — залежнасць значэння слова ад вышыні голасу. Прыкладам, слова «ма», калі яго сказаць фальцэтам, басам ці барытонам, азначае, адпаведна, «мама», «конь» або знак пытання. Каб прымусіць камп'ютэр разумець такія тонкасці, навукоўцы працавалі каля трох гадоў. Цяпер жа, як паведамляе агенцтва *APA*, камп'ютэры карпарацыі *IBM* разумеюць практычна ўсе шырока распаўсюджаныя ў свеце мовы.

## Хрысціяне – рабы мусульманаў

**У Судане, мусульманскай краіне ва Усходняй Афрыцы, дагэтуль існуе рабства, але каштуюць людзі зусім нядорага.**

Прадстаўнікам Міжнароднай арганізацыі хрысціянскай салідарнасці нядаўна ўдалося вызваліць з рабства больш за 150 чалавек. За кожнага з іх заплачана 100 долараў. Як паведамляе агенцтва *Reuter*, рабства дагэтуль шырока распаўсюджанае на поўначы Судана. Гэта вынік грамадзянскай вайны, якая пачалася ў краіне пасля абвяшчэння незалежнасці ў 1956 г. Абапіраючыся на арабскае насельніцтва паўночных раёнаў, мусульманскі ўрад Судана распачаў «свяшчэнную вайну з нявернымі». Ахвярамі сталі чарнаскурыя жыхары поўдня краіны, дзе распаўсюджанае хрысціянства. Хрысціян забівалі ці забіралі ў рабства. Усяго ў выніку вайны загінула больш за паўтара мільёна суданцаў, а тры мільёны захопленыя ў палон або выселеныя з спрадвечных мясцін пражывання.

## Скідка за пацалунак

**Чыгуначнае ўпраўленне зямлі Шлезвіг-Гальштэйн (паўночная Германія) уводзіць спецыяльныя скідкі для закаханых.**

З 20 лютага, каб атрымаць 50-працэнтную скідку на чыгуначны білет, закаханая пара павінна толькі прад'явіць касіру гарачы пацалунак. Агенцтва *Associated Press* падкрэслівае, што права на скідку трэба будзе даказваць і ў дарозе, г.зн. цалавацца па першым патрабаванні ўедлівых кантралёраў.

## Цыгарэтная малекула

**Раней лічылася, што шкодная звычка паліць — гэта вынік слабасці характару. Аднак цяпер стала вядома, што цягу да нікаціну выклікае адмысловае рэчыва ў чалавечым арганізме.**

Агенцтва *APA* інфармуе, што вучоныя аднаго з навукова-даследчых інстытутаў Стакгольма адкрылі малекулу, пры наяўнасці якой у арганізме чалавек адчувае жаданне паліць. Малекула, якая атрымала назву Б-2, выклікае так званую нікацінавую залежнасць, калі курыльшчык не можа самастойна перамагчы шкодную звычку. Адкрыццё малекулы Б-2 робіць верагоднай распрацоўку эфектыўнага лякарства ад нікацінавай залежнасці.

*Падрыхтавала*
**Алена СУРКО**

## Сотае «золата» Японіі

Учора ў Нагана японскія спартоўцы перамаглі ў спаборніцтве па скачках з вялікага трампліна. Гэта соты залаты алімпійскі медаль, заваяваны Японіяй на зімовых Алімпіядах.

*«Гэтая перамога надоўга застанецца ў нашай памяці»*, — сказаў кіраўнік японскай алімпійскай дэлегацыі Юсіра Ягі. Ён шчыра падзякаваў камандзе па скачках з трампліна за бліскучую перамогу, а таксама ўсім тым, хто падтрымліваў японскіх алімпійцаў.

Японскія спартоўцы ўдзельнічаюць у Алімпійскіх гульнях, пачынаючы з 5-ай Алімпіяды, якая праходзіла ў Стакгольме ў 1912 годзе. Але першыя залатыя медалі дасталіся Японіі толькі праз 16 гадоў, на Алімпіядзе ў Амстэрдаме, калі абсалютна нечакана для ўсіх японскія спартоўцы перамаглі ў лёгкай атлетыцы і плаванні. А першы «зімовы» залаты медаль Японія заваявала ў 1972 годзе, калі Юкіа Асіра паказаў лепшы вынік у скачках з трампліна. Дарэчы, Алімпіяда ў той год таксама праходзіла ў Японіі, у горадзе Сапара.

Такім чынам, у Нагана алімпійская зборная Японіі ўжо заваявала 4 залатыя медалі. Гэта можна назваць вялікім поспехам японцаў, бо дагэтуль ім не ўдавалася выйграць на зімовых Алімпійскіх гульнях болей за 1 медаль.

*ІТАР-ТАСС*

## Европе и Америке не дают покоя самолеты

*Прежде всего пассажиры-курильщики, террористы и шум моторов*

В работе некоторых международных аэропортов произошли существенные изменения, причем удобств для авиапассажиров не прибавилось. Тем, кто очнулся после праздничного угара и уже собирается в дорогу, не лишним будет узнать эти новости. Дабы не остолбенеть.

Власти Франции начали бороться с шумом в районах парижских международных аэропортов — в Ле-Бурже и имени Шарля де Голля . Введен запрет на взлеты и посадки в ночное время — с 23.00 до 6.00, чтобы самолеты не причиняли неудобства жителям прилегающих к аэропортам жилых кварталов. При нарушении запрета экипажи самолетов и авиакомпании будут подвергаться суровым штрафам. Так, например, командир корабля должен будет выложить около $2.000, а его авиакомпания — $10.000.

С одной стороны, такая забота французского правительства о своих гражданах, бесспорно, похвальна. Но с другой — меры носят явно дискриминационный характер в отношении многих зарубежных авиакомпаний.

Дело в том, что самолеты своего собственного национального авиаперевозчика — авиакомпании *Air France* — французы считают «тихими». Поэтому ее машины могут взлетать и садиться без всяких ограничений — хоть днем, хоть ночью. А вот многие авиакомпании государств СНГ, восточноевропейских и азиатских стран, летающие на старых машинах, отныне вынуждены изменять графики полетов. Однако в случае чрезвычайных ситуаций сажать самолеты разрешается даже ночью. В конце концов, не звери же французы.

Пока власти Франции борются с шумом, власти США заняты более масштабными проблемами: в крупных американских аэропортах вводится новая компьютерная система выявления потенциальных террористов. Ожидается, что уже через год она будет действовать в полную силу.

До сих пор сотрудники служб безопасности аэропортов вычисляли возможных злоумышленников «на глаз», то есть по наитию. Например, не понравилось американскому профи ваше лицо — милости просим на проверочку. Теперь же отсеивать подозрительных лиц для отправки на «допрос с пристрастием» будет компьютер. Причем основываясь на информации, которую пассажир сообщает о себе при покупке билета. Во внимание будет приниматься целая совокупность факторов, в частности — пункты отбытия, назначения, пересадок, покупается билет в одну сторону или в оба конца и многое другое.

Американские власти заверяют, что новая компьютерная система не в коей мере не ущемит прав авиапассажиров, а только поможет проводить более трезвые и менее предвзятые проверки. Тем не менее активисты правозащитных организаций уже утверждают, что новшество доставит дополнительные неприятности множеству вполне честных граждан, которые и так гораздо чаще террористов становятся объектами унизительных обысков в аэропортах.

Кстати, законопослушным пассажирам в последнее время вообще не везет. Во Францию по ночам не пускают, в Америке в террористы норовят записать, а в некоторых странах и того хуже — на святое замахнулись: с 1 января международные аэропорты Франкфурта-на-Майне, Цюриха и Женевы ввели запрет на курение практически во всех пассажирских помещениях аэропортов. Такое решение было принято под давлением некурящего меньшинства, которому соседство с курящим большинством портило и настроение, и самочувствие. Для тех же, кто ни на минуту не может расстаться с сигаретой, гуманные власти аэропортов отвели специальные загоны, где только и можно реализовывать свою нужду — покурить.

**Елена АНОСОВА**



© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1153 Нумар падпісаны ў друк 17.02.98 (15:00) Наклад — 12.900